# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (790) ГОД XVI БЕЛАСТОК 18 КРАСАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

«ЧУЖОЕ ХВАЛІЦЕ, СВАЙГО НЕ ЗНАЕЦЕ»




У серыі вечароў пад супольным загалоўкам «Чужое хваліце, свайго не знаеце», якую сістэматычна праводзіць клуб прафсаюзаў у Беластоку, адбыўся 24 сакавіка вечар спакойны, ціхі, але багаты. Прысвечаны быў 15-годдзю культурна-асветнай дзейнасці БГКТ у Польшчы. Не хвалячыся, трэба прызнацца, што вечар быў адным з цікавейшых серыі.

Багатай была яго праграма: выстаўка народнай культуры — ткацтва (дываны, радзюшкі, саламянкі), вышыўка (ручнікі, кашулі, макаткі), ганчарства, помнікі старой сельскагаспадарчай культуры (элементы прыладаў працы людзей) і г.д. Гледачы ўбачылі «Беларускае вяселле» — фільм, зроблены пару год таму назад цэнтраляй асветных фільмаў. Фальклорныя песні вёскі спявала Марыя Амельянюк — цікавы выканаўца з цікавымі песнямі; з вечарынкай з Гарадка выступіў гарадоцкі жаночы хор. Пастаноўка і выкананне гарадоцкай праграмы былі на найвышэйшым узроўні, таму яшчэ раз паўтараю, можна і трэба ад Гарадка вучыцца культурнай працы і арганізацыі мерапрыемстваў, разумных і карысных праграм. З уласнымі вершамі выступілі паэты «Белавежы» Алесь Барскі і Віктар Швед, а Зося Стаськевіч, быццам славутая Ганка Бяліцкая, пратраскатала гумарыстычна-сатырычны ўласны маналог і ва ўласным добрым выкананні задэманстравала ўласную песню-сатыру на частыя ў нас з'явы аленацыі людзей вёскі, на штучную высокасць выхадцаў з вёскі, якія ўжо ўласнымі самаходамі прыязджаюць з горада па вясковую каўбасу да спрацаванай маткі.



*А вось і сам Гарадок. Гэтак умоўна называем, як быццам бы ўвесь Гарадок быў тут на здымку. Увесь як увесь, але напэўна яго найлепшая, найбагацейшая часціна. Праграма, якую прадставілі гарадоцкія жанчыны на вечары, прыпамінае калейдаскоп, у які глядзіш і ўсё больш цудоўныя карціны мігаюць у вачах. Іхнія песні: то зацяжныя, як рэха па-над лесам і лугам, то зноў хуткія, вясёлыя, бурлівыя, як веснавыя ручаі. Людзі, што сядзелі, каб слухаць, раптам падхоплівалі разам з Гарадком іх песню, спявалі разам, а калі не ведалі слоў, толькі падцягвалі.*



*«Пірагі нам урадзілі» — заспяваў Гарадок свой апошні акорд. Каляровыя жанчынкі разбегліся і праз хвіліну... «Частуйцеся, дарагія госці, піражкамі. Што для духа, што для цела!»*

Выступіла з праграмай і эстрада «Лявоніха» і, сказаць хачу, не гарманізавала з цэласцю багатага народнага і рэгіянальнага вечара ў 15-годдзе БГКТ. Ані змест праграмы «Лявоніхі», ані выкананне не ўкладаліся ў багаты ціхі беластоцкі вечар. Але падабалася «Лявоніха» наватарствам, мікрафонамі, прыладамі, узмацняючымі голас — што ж, гэта ўжо прафесіянальныя артысты. Хацелася б толькі прыпомніць паўтараемую мною, мо і нудную, але суперпраўду, што ад беларускай эстрады «Лявоніха» чакаем беларускіх рэгіянальных праграм, а не горшага наследавання розных іншых выканаўцаў старынных рускіх і ўкраінскіх песень. Вядома ж і дзіцяці, што ёсць і беларускія, ёсць і беластоцкія старынныя, прастарынныя песні, для ўзнімання і прапагандавання якіх і існуе «Лявоніха», як я гэта разумею.

Працяг на стар.4



*І яшчэ адзін фрагмент з выстаўкі. Дзяўчына не належыць да выстаўкі, але да гарадоцкага калектыву, што можна пазнаць па ўборы.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 30-га сакавіка адбылося пасяджэнне прэзідыума гайнаўскага аддзела БГКТ. Парадак дня складаўся з наступных пунктаў: 1) аналіз аплачвання членскіх складчын; 2) разбудова арганізацыі і форм дзейнасці гурткоў БГКТ; 3) прыдзел для членаў прэзідыума новых абавязкаў.

■ Арганізацыя БГКТ у Гайнаўскім павеце ў бягучым 1971 годзе павялічылася на 112 членаў. І так, гурток БГКТ у вёсцы Трасцянка прыняў 20 новых членаў. у Ставішчах — 42, у Вульцы Тэрахоўскай — 14, у Гайнаўцы — 31 і Плянце — 5.

■ 4-га красавіка ў Беластоку ў памяшканні ТППР адбыўся агляд найлепшых аматарскіх тэатральных калектываў паасобных аддзелаў. Першае месца атрымаў тэатральны калектыў з Рыбалаў (Бельскі павет). Выступаў ён з п'есай «Першы ўрок». Другое месца журы прызнала самадзейнікам з Літвінавіч (Сямяціцкі павет). Аматары з Міхалова (Беластоцкі павет) і Клейнік (Гайнаўскі павет) падзялілі трэцяе месца. Па-за конкурсам выступіў тэатральны калектыў з Паўлаў з драмай «Немцы». Усім калектывам былі прызнаны грашовыя ўзнагароды.

■ 5-га красавіка гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з інспектаратам асветы арганізаваў нараду выкладчыкаў беларускай мовы ў пачатковых школах. Кіраўнік секцыі беларускага школьніцтва пры акруговым метадычным цэнтры ў Беластоку Васіль Сакоўскі выступіў з дакладам аб стане беларускага школьніцтва ў Польшчы, а падінспектар Сяргей Бароўскі ў сваім дакладзе прадставіў аналіз вынікаў навучання беларускай мове за першае паўгоддзе 1971 года і параўнаў яго з вынікамі навучання польскай мове. У абодвух выпадках не памінаў ён таксама матэрыяльную базу школьніцтва, якая спрыяе ў вывучэнні гэтага прадмета. У гэтай нарадзе прыняў таксама ўдзел сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк.

## НЕ ТОЛЬКІ НОВАБЕРАЗОВА

Нялёгкая гэта справа — ацаніць чыюсьці дзейнасць, асабліва, калі хочам зрабіць гэта салідна, усебакова і аб'ектыўна. Іменна такую мэту паставіла перад сабой павятовая рада нарадовая ў Гайнаўцы: ацэнкай працы адной з грамадскіх рад дапамагчы не толькі той грамадскай радзе, але і іншым, у выкананні даручаных ім заданняў.

Новаберазова — гэта адна з найбольшых грамад у Гайнаўскім павеце. Грамада гэта займае 4828 гектараў, складаецца з 10 салэцтваў, мае тыпова сельскагаспадарчы характар і з'яўляецца адной з найбольш таварных грамад у павеце.

У такім становішчы грамадская рада набыла вялікі вопыт у кіраванні сельскай гаспадаркай, у развіцці асветы і выхавання моладзі, у арганізоўванні пунктаў паслуг, у вырашэнні складаных гаспадарчых і грамадскіх праблем, якія выступаюць у грамадах такога тыпу. Таксама і ў галіне культуры ГРН у Новаберазове можа пахваліцца значнымі дасягненнямі: у апошнія гады ў грамадзе было створана нямала культурна-асветных пляцовак. Жыхары вёскі Койлы пабудавалі клуб селяніна, у Новаберазове арганізавалася клуб-каварня. Арганізавалася ў Новаберазове спулдзельня здароўя, якая аб'ядноўвае 350 членаў.

### ДАЛЕЙШЫ КРОК НАПЕРАД

Няма патрэбы змяшчаць у гэтым артыкуле ўсяго таго, аб чым гаварыў Лявон Карнілюк — старшыня ГРН у сваёй справаздачы аб паўтарагадовай дзейнасці. Галоўным напрамкам у дзейнасці ГРН была сельская гаспадарка, бо яна з'яўляецца галоўным заняткам жыхароў грамады. У справаздачы, а затым і ў дыскусіі на сесіі павятовай рады нарадовай, найшырэй разглядаліся справы, звязаныя з павелічэннем сельскагаспадарчай прадукцыі. У грамадзе Новаберазова дабіліся значнага павелічэння ўраджаю з гектара (з 18 ц у 1965 г. да 20,5 ц у 1969 годзе). Ураджай бульбы павялічыўся за той час на 20 ц з гектара (са 150 ц да 170), сена — з 35 ц да 55 ц з га. Выкарыстоўванне мінеральнага ўгнаення ў чыстым рэчыве павялічылася з 45 да 87 кг на гектар. Аховай раслін ахоплены ўвесь арэал пад бульбай і 50% палёў пад збожжам.

Значныя, хоць яшчэ незадавальняючыя дасягненні адзначаны і ў жывёлагадоўлі.

(Працяг на стар. 4)



**Нашым чытачам шлем найлепшыя велікодныя пажаданні!**

# ПАСЕЯЎ БАГАТЫ ЎРАДЖАЙ



*28 люты 1971. На ўрачыстасці 15-годдзя БГКТ у Польшчы Яраслаў Кастыцэвіч (першы справа) прымае адзначэнне «Заслужаны Беласточчыне».*

Яшчэ нядаўна быў з намі, жывы! Многія запомнілі Яго з дня ўрачыстасці 15-годдзя БГКТ — 28 лютага. Ён быў у шэрагу адзначаных «Заслужаны для Беласточчыны». Стаяў выпраставаны, як усё сваё жыццё, усміхаўся жывымі вачыма. Хто тады, гледзячы на Яго, падумаў... ?

Я цешылася, што і Ён — мой Дырэктар, мой шматгадовы сардэчны прыяцель, як бацька родны — Яраслаў Васільевіч добра выглядае, добра сябе адчувае. Так цешылася, што ён, як даўней, здалёк бачыць сваіх выпускнікоў, і як даўней, першы схіляе ў ветлівым уклоне галаву. Гэты апошні яго ветлівы ўклон узрадаваў мяне. Я чарговы раз адчула радасць, што выйшла са «школы добрага выхавання Яраслава Васільевіча».

Калі мы ад часу да часу на працягу тых мінулых 18 год, калі закончылі беларускі ліцэй у Бельску, дырэктарам якога быў Ён, сустракаліся з даўнімі сябрамі па класе, па школьнай лаўцы, заўсёды заводзілі размову пра нашы ліцэальныя гады, пра нашых настаўнікаў, пра нашага Дырэктара. Сябры пыталіся ў мяне ў першую чаргу, як жыве, як адчувае сябе Яраслаў Васільевіч, бо Ён увасабляў наш ліцэй, быў яго сэрцам, яго добрым духам. Я звычайна адказвала, што трымаецца і нічога не змяніўся за апошні час. Мы ў сяброўскай атмасферы ўспаміналі метады Яго навучання, Яго ветлівасць. Усе вучні Бельскага беларускага ліцэя, напрыклад, кланяюцца заўчасна, здалёк. Бо гэтую мілую манеру меў Ён. Убачыўшы цябе на вуліцы, здалёк знімаў шапку і праходзіў побач з усмешкай і схіленай галавой, з пашанай. Помню, вучні часта, пакуль прызвычаіліся да гэтага, перажывалі глыбокія хваляванні: каб паспець першаму ўгледзець Яго, першаму пакланіцца свайму Дырэктару. Так, прыгожыя прывычкі ўваходзілі ў кроў, станавіліся мілай і натуральнай прывычкай жыцця.

Яго выпускнікі, якімі Ён так ганарыўся, рассеяліся па краіне. Не прыпамінаю большага горада, дзе б іх не было. А пра іх жыццё, працу, жанаты ці не, мае дзяцей і колькі, — пра ўсё гэта можна было даведацца ў Яраслава Васільевіча. Ніцьмі бацькоўскай любві збягаліся весткі адусюль, ад усіх, да Яго, як да бацькі. Быў сумны, калі даведваўся пра няўдачы сваіх выпускнікоў, быў такі радасны, ганарыўся, калі чуў пра іхнія авансы. Як найпрыгажэйшую малітву, з бліскучымі вачыма пералічваў: з нашай школы маем столькі-та інжынераў, столькі-та магістраў фармацыі, ці іншых, столькі дактароў, столькі навуковых супрацоўнікаў. А столькі «маіх вучняў» ужо дацэнтамі, — заканчваў горда.

Помню, як будаваў новы гмах беларускага ліцэя ў Бельску. Колькі працы Ён укладаў у гэта! Часта прыязджаў па справах у Беласток. Колькі перажываў узнёслых хвілін Ён будаваў Новы дом, як помнік. Заходзіў у рэдакцыю. На розныя пытанні адказваў «ідзем уперад» і сціскаў пры гэтым моцна за руку.

Яго вучні былі добрымі студэнтамі і добрымі працаўнікамі. Любіў хваліцца, што рэктары і дэканы вышэйшых школ хваляць за пільнасць і здольнасць яго вучняў. Што дзякуюць яму за добрых студэнтаў. Такія падзякі атрымліваў з Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, з Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку, з Варшаўскага універсітэта, з Варшаўскай палітэхнікі, з Ольштынскай сельскагаспадарчай вышэйшай школы, з Вышэйшых педагагічных школ у Аполі і Гданьску, са Шчэцінскай палітэхнікі, з Вроцлаўскага універсітэта, з Люблінскага, а таксама з Маскоўскага і Ленінградскага, з Харкаўскага і Кіеўскага, з Мінскага універсітэтаў.

Жыў з моладдзю і для моладзі. Марыў, каб сустрэцца яшчэ са сваімі вучнямі на з'ездзе выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя...

Так цяжка паверыць, што адыйшоў Ён ад нас назаўсёды. Астаецца нам толькі добрая і вялікая памяць пра Чалавека, які сеяў шчодрай рукой адборнае зерне і расціў багаты плён у сваім багатым і працавітым жыцці!

*Вера Леўчук,*
*вучаніца Яраслава Кастыцэвіча*

# ПАВЯТОВЫ З'ЕЗД ЗСЛь У ГАЙНАЎЦЫ




*Прэзідыум XIII з'езда ЗСЛь у Гайнаўцы. Даклад чытае сакратар ПК ЗСЛь Эдвард Маркевіч.*

У Гайнаўцы адбыўся XIII павятовы з'езд Аб'яднанай людовай партыі (ЗСЛь). З'езд падсумаваў сваю дзейнасць за мінулы двухгадовы перыяд і намеціў важнейшыя напрамкі дзейнасці на наступныя гады. У працы з'езда ўдзельнічалі, між іншым, член Галоўнага камітэта ЗСЛь Тадэвуш Орыль, сакратар Ваяводскага камітэта ЗСЛь Казімір Дунай і сакратар ПК ПАРП у Гайнаўцы Аляксей Лазоўскі. Справаздаўчы даклад прачытаў сакратар ПК ЗСЛь Эдвард Маркевіч. Пасля даклада адбылася ажыўленая дыскусія. Датычыла яна перш за ўсё неабходнасці актыўнай працы ў напрамку інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі і павелічэння жывёлагадоўлі. Павятовая арганізацыя ЗСЛь налічвае 825 членаў, а сярод іх пераважаюць сяляне.

Сельская гаспадарка Гайнаўшчыны, на жаль, не мае вялікіх дасягненняў. Не варта аднак абагульняць справы. У многіх гайнаўскіх вёсках сяляне высяваюць зараз па 90—100 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 гектар. Да такіх вёсак належаць мясцовасці ў раёне Старога Корніна, Новаберазова і Чыжоў. У два разы больш мінеральных угнаенняў высяваюць перадавыя гаспадары Андрэй Харытанюк са Старога Беразова і Мікалай Тамашук са Старога Корніна — па 220 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 гектар зямельных угоддзяў, Баляслаў Яраслаўскі з Іванак і Васіль Астапчук з Раковічаў — па 200 кг NPK на 1 га, Уладзімір Галёнка з Пасечнікаў Вялікіх і Рыгор Пятручук з Сапава — па 170—180 кг NPK на 1 га і г.д.

У Гайнаўскім павеце ёсць спрыяючыя ўмовы да развіцця жывёлагадоўлі, а перш за ўсё кароў. На працягу 10 апошніх гадоў, г.зн. за перыяд 1960—1970, было меліяравана тут сотні малаўраджайных лугоў і сенажацяў. Кошты меліярацыі склалі 122 мільёны злотых. Меліярацыя дала жаданыя вынікі — многія сяляне збіраюць зараз па 100 і больш цэнтнераў сена з 1 гектара. Варта адзначыць і тое, што сяляне з Гайнаўшчыны прынялі рад абавязацельстваў, каб такім чынам выказаць сваю падтрымку для праграмы новага кіраўніцтва партыі і ўрада. Напрыклад, сяляне з Тынявічаў Вялікіх і Малых абавязаліся выгадаваць дадатковых 16 штук кароў. Між іншым, Мікалай Дудзіч выгадуе дадаткова 4 каровы, Аляксандр Свентахоўскі і Мікалай Главачык па дзве каровы. Сяляне са Збуча (перш за ўсё Пётр Супэлка, Васіль Максімюк, Ян Бруг і Лявон Карнелюк) абавязаліся выгадаваць дадаткова 14 штук кароў.

Дадатковую колькасць кароў і свіней абавязаліся выгадаваць сяляне: Уладзімір Галёнка з Пасечнікаў Вялікіх — адну карову і 10 штук свіней, Яўгень Садоўскі з Агароднікаў — адну карову і 5 штук свіней, Сцяпан Вэйкоўскі з Адрынак — дзве каровы і 4 штукі свіней, Баляслаў Яраслаўскі з Іванак — чатыры каровы і 15 штук свіней, Васіль Шпілько з Койлаў — адну карову і 2 штукі свіней, Пётр Лапінскі з Навасадаў — тры каровы і 3 штук свіней і г.д.

У з'ездаўскай дыскусіі дэлегаты звярнулі ўвагу на недахопы ў працы мясцовых адміністрацыйных установ, якія павінны служыць перш за ўсё сельскай гаспадарцы, на павышэнне сельскагаспадарчай прадукцыі ў святле дырэктываў VIII Пленума ЦК ПАРП, на хібы ў працы пунктаў «Сучаснай гаспадыні», уносілі прапановы адносна страхавання сялян і г.д.

*Янка Цялушэцкі*
*Фота: Э. Панецкі*



*Удзельнікі з'езда.*

# ДАРОГА ЗМАГАННЯ І ПАКУТ

Вера Петручук жыве ў Трасцянцы. З'яўляецца пенсіянеркай. Жыве спакойным жыццём звычайнай вясковай жанчыны. Заслужаны гэта спакой і адпачынак. Бо ў мінулым жыцці Веры Петручук было перапоўнена змаганнем, барацьбой і пакутамі.

Падчас гітлераўскай акупацыі Вера Петручук пражывала ў Беластоку. Працавала служанкай у немцаў-спецыялістаў па каналізацыі горада. Немцаў было пяцёра, — пры чым двое былі заўзятымі гітлераўцамі, адзін стары немец быў яшчэ прыхільнікам Вільгельма, а двое былі камуністамі. З немцамі-камуністамі Вера ўвесь час утрымлівала цесную сувязь. Стварылі яны ёй магчымасць дзейнасці на карысць партызанскага падполля.

Вера выратавала ад гітлераўскага лагера дзве асобы. Адной быў жыхар Трасцянкі Міхал Сіманчук, які ўцёк з прымусовых работ у Германіі. Вера схавала яго ў сябе ў хаце і дапамагла перахавацца. Другой была грамадзянка Ленінграда Вера Грыгарук, якая падчас савецкай улады прыехала на Беласточчыну і не паспела эвакуавацца.

Вера Грыгарук пад зменeным прозвішчам — Прыгарук працавала ў беластоцкай пякарні. Выносіла адтуль хлеб і абедзве геройскія жанчыны перадавалі яго ў беластоцкае гета. Апрача таго, Вера Петручук была партызанскай сувязной, перавозячы ў свіслацкія лясы лісты партызанаў імя Дзяржынскага.

Восенню 1943 года Вера Петручук выконвала адно са сваіх партызанскіх заданняў: везла лісты да партызанаў ля Свіслачы. На паўстанку ля Бераставіцы ў вагон нечакана ўвайшлі гітлераўскія жандары. Вера ведала ўжо, што за ёй сочаць. Паспела ўбегчы ў туалету, парваць усе паперы і спусціць за сабою ваду. Сама хацела выскачыць праз акно. Немцы з ломатам заявілі, што калі ў момант ім не адкрые, будуць страляць. Веру арыштавалі.

Да нічога не прызналася. «Мяса ехала купіць у Свіслач, бо няма чаго есці», — тлумачыла немцам. Не паверылі. Вера трапіла ў лагер.

Павезлі ў Штутгоф. Па дарозе на адной астаноўцы немец стрэліў у зняволеных. Дзве асобы забіў, а адну жанчыну цяжка параніў. Сябры нядолі перавязалі раненую жанчыну, Вера пачала прасіць немца з аховы, каб даў крыху вады. Немец змяў жменю снегу і кінуў у вагон. Зняволеныя падзялілі ложачкай снег паміж сабой.

У Штутгофе Вера пазнаёмілася з адным лекарам, які перадаваў ёй навейшыя весткі аб падзеях на фронце, а Вера перадавала іх зняволеным у лагеры. Пасля нейкага часу перавезлі аднак Веру ў Асвенцім. Сустрэлася тут яна з іншай беластачанкай Бялоўнай — вядомым сёння лекарам дзіцячых хвароб. Бялоўна, хаця зняволеная, выконвала ролю лекара і многім людзям дапамагала. У камандзе, у якой працавала Вера, было 2500 жанчын, пад канец засталося толькі 250 асоб. З Вераю ў адной групе працавала 26 галандак, пасля двух тыдняў пабыўкі ў Асвенціме ўсе памерлі, засталася адна Вера.

Ужо напярэдадні ўваходу савецкіх войск немцы вывезлі Веру да наступнага лагера, размешчанага непадалёку ад Берліна. Да канца вайны Вера знаходзілася ў надзвычай цяжкіх умовах. Зняволеныя атрымлівалі тут усяго 10 дэкаграмаў хлеба ў дзень. Мноства людзей памерла з голаду. Вера захварэла тыфам.

Прыйшло вызваленне. Вераю заапекаваўся шведскі Чырвоны крыж. Паволі, з вялікімі цяжкасцямі вярталася яна да жыцця, да здароўя. Пасля выздараўлення пераехала ў Савецкі Саюз, а адтуль на радзіму, у Трасцянку. Тут даведалася, што ўсе яе найбліжэйшыя загінулі ад рук гітлераўскіх бандытаў: мама, два браты, дзве сястры, швагер.

Вера жыве ў сваёй хаце пасярэдзіне вёскі Трасцянкі. Мае сяброў нядолі з канцэнтрацыйных лагераў. Наведвае іх, яны наведваюць Веру Петручук. У 1969 годзе Рада Дзяржавы адзначыла яе Залатым Крыжам Заслугі.

*У. Паўлючук*

Пачатак на стар. 1




За перыяд 1965—69 гадоў колькасць кароў на 100 гектараў узрасла з 35,2 да 42,4 галоў, а свіней — з 52,3 да 58,8.

Ва ўсіх вёсках арганізаваны сельскагаспадарчыя гурткі і гурткі вясковых гаспадынь. У сельгасгуртках ёсць 32 трактарныя камплекты, 9 малацільных агрэгатаў і шэраг іншых машын. Гэтыя машыны ўсё лепш выкарыстоўваюцца. У грамадзе пабудавана 117 сіласных ям. За апошнія гады ў грамадзе прыбыло 2 км бітых дарог (Барок — Дубічы Асочныя), пабудаваны 2 бетонныя масты і аддадзены 2 глыбінныя студні для будучых водаправодаў. Арганізавана 88 га супольнай пашы ў вёсках Хітра, Пуціска, Дубічы Асочныя і Барок. Грамадскім чынам пабудаваны супрацьпажарны басейн і зроблена спартыўная пляцоўка ў Новаберазове. У грамадзе ёсць шэраг сялян, гаспадаркі якіх могуць быць добрым прыкладам для іншых: Васіль Мароз з Шастакова на 9 га зямлі трымае 8 кароў, 9 свіней, пабудаваў сіласную яму, выкарыстоўвае 130 кг NPK на гектар і дабіваецца высокіх ураджаяў. Падобныя вынікі і ў Уладзіміра Астапчука з Койлаў, Нікіфара Бурачыка з Чыжыкаў, Васіля Шпількі з Дубіч і многіх іншых.

Прыведзеныя прыклады паказваюць важнейшыя эканамічныя дасягненні грамады. Вакол іх канцэнтравалася арганізацыйна-масавая праца грамадскай рады нарадовай, яе прэзідыума, камісій і солтысаў. У гэтай кадэнцыі ГРН Новаберазова правяла 12 рабочых сесій, на якіх абмяркоўваліся праблемы сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, забеспячэння вёскі. Гэта быў, несумненна, добры напрамак дзейнасці, абаснаваны на рэальных магчымасцях грамады. Грамадская рада ацаніла тады на сваіх сесіях падрыхтоўку да важнейшых кампаній у сельскай гаспадарцы і на фоне гэтага займалася таксама дзейнасцю гміннай спулдзельні, СОП-у, спулдзельні здароўя, сельгасгурткоў, гурткоў вясковых гаспадынь і іншых устаноў, якія працуюць на яе тэрыторыі.

Вынікам гэтай працы былі пастановы, якіх у гэтай кадэнцыі ГРН прыняла 38. Прэзідыум ГРН правёў за гэты час 25 пасяджэнняў, прымаючы 49 пастаноў. Камісіі ГРН правялі 14 кантроляў і збіраліся на свае пасяджэнні прыблізна раз у месяц. Грамадскае бюро выдала за гэты час 983 рознага роду пасведчанні і прыняло 182 заявы ад жыхароў. На 153 заявы быў дадзены пазітыўны адказ.

Гэтыя лічбы з'яўляюцца ілюстрацыяй значэння найніжэйшага звяна ў сістэме ўлады і мясцовай адміністрацыі.

### ГЭТА НЕ БЫЎ СУД

Спачатку аб прадстаўленай справаздачы выказалі сваю думку камісіі ПРН, якія пры дапамозе камісій ГРН у Новаберазове і паасобных аддзелаў прэзідыума ПРН правялі ў гэтай грамадзе комплексны кантроль. Затым пачалася дыскусія, якая падкрэсліла ўсе слабыя бакі ў справаздачы. Было пастаўлена галоўнае пытанне: як былі выкананы пастановы ГРН і якія былі адносіны прэзідыума ГРН і бюро да прапаноў камісій. Трэба тут адзначыць, што і ў справаздачы ГРН і ў выступленнях камісій зусім не гаварылася аб многіх важных справах у дзейнасці рад нарадовых. Незадавальняючыя вынікі дасягнула грамада ў развіванні працы грамадскім чынам і пракладкі дарог, што, на думку старшыні ПРН Мікалая Самоціка, ставіць у гэтым напрамку перад ГРН сур'ёзныя заданні.

Несумненна, дыскусія на сесіі ПРН у Гайнаўцы, якая разгарнулася пасля справаздачы ГРН Новаберазова, дала гэтай радзе шмат карыснага для далейшай працы. На сесіі прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх грамад павета і, напэўна, кожны з іх вынес з пасяджэння добрыя прапановы для ўласнай дзейнасці. Шкада толькі, што праблемы гэтай грамады ў дыскусіі былі ізаляванымі і замкнутымі ў граніцах адной грамады. Неабходна было праз ацэнку грамады паглядзець на працу паасобных аддзелаў прэзідыума ПРН, а на сесіі, на жаль, гэта не было зроблена. Ад радных ПРН, якія выступаюць у дыскусіях на такіх сесіях, грамадскія дзеячы чакаюць іменна такога крытычнага падыходу да працы прэзідыума ПРН і яго аддзелаў. Вядома, такога роду сесія, на якой разглядаецца ўся дзейнасць рады нарадовай ніжэйшай ступені, можа ў прадстаўнікоў гэтай рады выклікаць пачуццё, нібы іх судзяць. Аднак кожная ацэнка тым і характэрна, што ў ёй больш звяртаецца ўвагі на недахопы, чым на дасягненні. Так было і на сесіі ПРН у Гайнаўцы. Але радныя імкнуліся не судзіць ГРН у Новаберазове, а крытычнай ацэнкай дапамагчы ў далейшай дзейнасці.

*К. Ляшчынскі*

---

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ:

Бацька мой меў 9 га. Пасля яго смерці мы з братам у 1950 годзе падзялілі добраахвотна гаспадарку пароўну. Мы хацелі б, каб гэты падзел быў праўна аформлены. Я хачу выступіць у суд, каб зрабіць гэткі падзел, але я чуў, што гаспадаркі дзяліць не можна, калі б у яго выніку мелі паўстаць гаспадаркі ніжэй 8 га. Ці можа суд правесці падзел гаспадаркі, такі, які мы дагэтуль мелі?

АДКАЗ:

Калі гаспадарка фактычна была падзелена перад 5 ліпеня 1963 г., то суд пры падзеле спадчыны не абавязаны прытрымоўвацца мінімальнай нормы, якую закон адзначыў на 8 га. Гэта значыць, што ў вашым выпадку суд можа падзяліць спадчыну так, як вы гэта зрабілі і карысталіся. Суд можа гэтак падзяліць гаспадарку, але не мусіць гэтага зрабіць і таму з праўнага боку не было б перашкод, каб прыдзяліць цэлую бацькаву гаспадарку аднаму з вас, або падзяліць яе інакш, чым вы яе падзялілі. Практычна ў гэткіх выпадках, калі наследнікі даўно ўжо вядуць асобныя гаспадаркі, суд дзеліць спадчыну паводле стану, які існуе да гэтага часу, праводзячы патрэбныя з гаспадарчага пункту гледжання папраўкі.

## ЦІ ВЕДАЕШ...

...што ў Бельскім павеце гаспадары прымянялі ў 1969/70 гаспадарчым годзе па 76,2 кг NPK на адзін гектар;

...што сярэднегадовая скупка збожжа за апошнія 2 гады выносіла каля 10 тысяч тон;

...што гаспадары з тэрыторыі ГРН Орля высявалі ў 1969/70 годзе ў тры разы больш мінеральных угнаенняў, чым прадбачваў план. (к)

---

Пачатак на стар. 1

## БАГАТЫ ЦІХІ ВЕЧАР



*Фрагмент выстаўкі: дыван двухасноновы з Сакольшчыны — ужо ткацкая рэдкасць — славіцца ва ўсёй Еўропе тэхнікай. На ім з народнай вышыўкай ручнікі, а ўнізе фрагмент гасціннага століка, за якім засталі мы «міністра фінансаў», галоўнага бухгалтара ГП БГКТ Галену Мялешка са сваім мужам.*

Быў вечар сытым у даслоўным і пераносным сэнсе. У пераносным сыты, бо сабрана многа розных і прыгожых экспанатаў на выстаўку, бо з'ехаліся на яго найцікавейшыя людзі таварыства, бо формы працы тут паказаны былі багатыя. Даслоўна быў сытым вечар, бо ўдзельнікі вечара з Гарадка пачаставалі гасцей пульхнымі духмянымі свойскімі піражкамі. Усе наеліся дасыта і зноў пайшла праграма амаль да поўначы.

Атмасфера вечара была ўзнёслая і разам з тым свабодная. Вечар выйшаў добры, і так думаецца: мала, замала людзей чула і бачыла гэты вечар. Паўтарыць бы яго поўнасцю хоць у большых культурных цэнтрах ваяводства — для рабочых у Гайнаўцы, напрыклад?!

Рэдакцыя з свайго боку затрымала ў асобных кадрах фільм з вечара і прадстаўляе яго чытачу.

*Вера Леўчук*

*Фота Цаф — Сянько*



*Песню сваю прывезла і Марыя Амельянюк з Грэдалёў у Бельскім павеце. Публічнасць прыняла грэдалёўскую песню і яе выканаўцу сэрцам чулым.*



*І ўрэшце глянем на залу. Гэта публіка таварыскага вечара, якая прыйшла пазнаёміцца са сваім, каб ім — сваім, а не чужым, ганарыцца і сваім хваліцца. Пераканалася, што ёсць чым.*

---

## Беларуская літаратура

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

### СТАРАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ПОЛЬСКІХ АЦЭНКАХ. ЧАСТКА IV.

У часы народнай Польшчы былі створаны спрыяльныя ўмовы да грунтоўнага вывучэння старарускай літаратуры. У польскай навуцы паявілася цэлая плеяда выдатных вучоных, якія ўнеслі вялікі ўклад у вывучэнне старарускай пісьмовасці, у тым ліку таксама «Повесці врэменных лет». Сярод гэтых вучоных сур'ёзную пазіцыю займае Генрык Лаўмянскі — аўтар вялікай колькасці прац, прысвечаных Кіеўскай Русі і польска-рускім сувязям. У адной з сваіх прац «Zagadnienie roli Normanów w genezie państw słowiańskich» (1957) Лаўмянскі выступіў супраць тэзіса аўтара «Повесці» аб нармандскім паходжанні Рускай дзяржавы. Гэтым самым польскі гісторык уступіў у палеміку з многімі гісторыкамі (асабліва нямецкага паходжання), якія на працягу многіх стагоддзяў імкнуліся даказаць, што славянскія народы не выказалі ніякай здольнасці ў галіне самастойнай дзяржаўнай арганізацыі. Лаўмянскі не пярэчыў, што першыя рускія князі былі скандынаўскага паходжання, пры гэтым аднак катэгарычна сцвярджае, што князі гэтыя хутка абруселі і што, заснаваўчы цэнтралізаваную рускую дзяржаву, абапіраліся на мясцовых рускіх прадпасылках эканамічнага і грамадска-палітычнага характару.

У артыкуле «Kilka uwag krytycznych o początkach Polski» (1949) Лаўмянскі выступіў супраць тых усіх польскіх вучоных, якія падтрымлівалі няправільны з пункту гледжання гістарычнай праўды погляд аўтара «Повесці» аб польскім паходжанні плямёнаў вяцічаў і радзімічаў.

Гісторыкам маладога пакалення, які прысвяціў «Повесці» некалькі грунтоўных прац, з'яўляецца Анджэй Грабскі. У працы «Powiest' wremiennych let jako źródło do dziejów Polski — w świetle naszej literatury» (1955) аўтар даў дакладны агляд выступаючых у «Повесці» вестак, звязаных з Польшчай. Пры гэтым шырока ахарактарызаваў спрэчкі вучоных адносна тлумачэння паасобных запісаў у «Повесці». Грабскі палемізуе з многімі польскімі і савецкімі даследчыкамі ў справе тлумачэння многіх няясных эпізодаў рускага летапісу.

Грабскі вельмі шырока гаворыць аб польска-рускіх адносінах у перыяд панавання такіх польскіх князёў, як Казімеж Аднавіцель, Баляслаў Смелы і Уладыслаў Герман. Скарыстоўваючы скупыя наогул звесткі «Повесці», Грабскі адклікаецца да многіх іншых крыніц і фактаў з той мэтай, каб як найшырэй паказаць розныя аспекты руска-польскіх суадносін.

Некалькі разоў Грабскі гаворыць аб памылках аўтара «Повесці», якія праявіліся ў недакладнасці пададзеных гістарычных дат.

Заняўся Грабскі таксама адвечнай праблемай — спрэчкай паміж староннікамі так зв. нарманістаў і антынарманістаў у справе паходжання Рускай дзяржавы. Сцвердзіў ён, што хаця сярод першых рускіх князёў і знаці былі нарманы-скандынавы, то ўсё ж такі асновы рускай дзяржавы былі створаны мясцовым рускім элементам. — Зрэшты, — падкрэсліваў Грабскі, — дзяржава не можа складацца толькі з князёў і знаці, складаецца яна перш за ўсё з народных мас. Паводле Грабскага, абсалютна не ўсе рускія плямёны, як гэта даказвалі нарманісты, паклікалі нарманаў. Толькі некаторыя з плямёнаў, ведучы вайну з суседнімі плямёнамі, звярнуліся да нарманаў, якія, прыбыўшы ў Русь і разбіўшы некаторыя плямёны, давялі да стварэння цэнтралізаванай Рускай дзяржавы.

Грабскі стараецца таксама акрэсліць колькасць прыехаўшых у Русь скандынаваў у першы перыяд існавання Кіеўскай Русі. Лік гэты невялікі, толькі менш 100 чалавек. Зразумела, што была гэта скандынаўская кропля, якая расплылася ў рускім моры.

Усе гэтыя канцэпцыі выкладыў Грабскі ў такіх працах як «Studia nad stosunkami polsko-ruskimi w początkach XI» (1957), «Kilka uwag na marginesie dyskusji nad początkami państwa ruskiego» (1959), «Bolesław Chrobry» (1964).

Варта тут прыгадаць таксама працу Тадэвуша Васілеўскага «Studia nad składem wczesnośredniowiecznych sił zbrojnych na Rusi» (1958), у якой ён заняўся, між іншым, лічбовым станам войска ў Кіеўскай Русі. Аўтар сумняваецца ў праўдзівасці дадзеных у «Повесці» адносна велізарных армій, створаных паасобнымі князямі. Многія іншыя даследчыкі, у тым ліку і некаторыя савецкія, падтрымалі думку Васілеўскага, сцвярджаючы, што ў сапраўднасці лічбова стан войска паасобных князёў быў наогул на многа скрамнейшы, чым той, аб якім гаворыць рускі летапісец.

Сур'ёзную пазіцыю сярод польскіх даследчыкаў займае праца Францішка Сяліцкага «Powieść minionych lat» (1958),

# ТРЫБУНА чытачоў



Эля Бахарэвіч вучыцца ў пачатковай школе ў Чаромсе. Яна любіць спяваць. Прымае ўдзел у мастацкай самадзейнасці сваёй школы. Часта выступае сола.

**фота В. Бура, Гайнаўка**

### ПРЫКЛАДНЫ ЖЫВЁЛАГАДОЎЦА

Міхась Скепка з'яўляецца адным з лепшых гаспадароў Ягаднікаў, што ў Гайнаўскім павеце. Гаспадарыць ён на 11-ці гектарах зямельных угоддзяў. Сваю гаспадарку Скепка ў цэласці пераставіў на жывёлагадоўлю. З думкай аб гэтым пабудаваў абору і хлявы, у якіх трымае 50 свіней, 7 авечак і 9 кароў, у тым ліку 5 дойных. Сярэдні ўдой ад адной каровы 3200 літраў. Мае ён таксама зараз 14 пародзістых свінаматак.

Каб павысіць кармавую базу, Скепка штогод сіласуе кукурузу, конскі зуб і бурачанае лісце. Сее шмат паплёнаў і падсявае ў збожжа сырадэлю. На лугі і пашы высявае 240 кг мінеральных угнаенняў у чыстым складзе на 1 гектар.

У 1970 годзе Міхась Скепка выпрадукаваў і прадаў дзяржаве 2220 кг свініны і 1500 кг ялавічыны. З кожным годам намагаецца ён павысіць колькасць выпрадукаваных кілаграмаў мяса, а таксама павысіць ураджай збожжа з 1 гектара. У сувязі з гэтым на збожжавыя культуры высявае 185 кг NPK у чыстым складзе на 1 гектар (у ГРН 125 кг NPK). Гэта значна павялічыла ўраджаі: чатыры асноўныя культуры далі 22 цэнтнеры з 1 гектара, а бульба — 310 цэнтнераў.

На гаспадарцы Скепкі штогод адбываецца падрыхтоўка сялян Ягаднікаў да прафесіі селяніна. У 1970 годзе адбыўся тут паказ кішэння і паравання бульбы, а ў 1971 годзе будзе праводзіцца падрыхтоўка ветэрынарнай і сельскагаспадарчай службы. Трэба адзначыць і тое, што гэты выдатны жывёлагадоўца з'яўляецца падпісчыкам сельскагаспадарчых часопісаў «Гаспадарчая ахова звяроў», «Плён», «Аграхімія».

Адказваючы на заклік І-га сакратара КЦ ПАРП тав. Эдуарда Герка, прыняў ён абавязацельства прадаць дзяржаве 300 кг свініны і 400 кг ялавічыны больш як у мінулым годзе.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

### СКЛАД ГС

Вёскі, якія знаходзяцца ў раёне крынкаўскага ГС-у, за сельскагаспадарчымі машынамі мусілі ехаць у Саколку, што ў 30 кіламетрах і больш. Трацілася многа часу. Але ад нядаўна справа гэта значна палепшылася. Крынкаўскі ГС арганізаваў у сябе склад сельскагаспадарчых машын. Ёсць іх дастаткова ў Крынках.

*С. А., Саколка*

*З жыцця ліцэяў*

### ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВАЯ СЕСІЯ

Нядаўна ў нашым ліцэі адбылася папулярна-навуковая сесія, прысвечаная 100-ай гадавіне Парыжскай камуны. Падрыхтавалі яе вучні ліцэя пад кіраўніцтвам настаўніцы Ірэны Цыбік.

Даклады аб Парыжскай камуне чыталі наступныя вучні А. Адамец, М. Сцепанюк, В. Магрук і К. Лушчынская.

Мастацкую частку, тэматычна звязаную з Парыжскай камунай, падрыхтавалі вучні II і III класаў пад кіраўніцтвам настаўніцы Галіны Карпюк.

У нашым ліцэі даўно ўжо існуе школьны кааператыў. А ўжо два гады паспяхова працуе ў нас кіёск, дзе можна купіць «канапку». Амаль кожны перапынак каля гэтага кіёска стаіць чарга вучняў. Прадаюць канапкі вучні II класаў.

Аб арганізаванні кіёску з «канапкамі» паклапаціўся наш настаўнік Рыгор Анацік.

*Вера Ахрымюк, Бельскі бел. ліцэй*

### АЛІМПІЯДА ВЕДАЎ

Нядаўна ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове адбыўся фінал XII школьнай алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. Да фіналу дайшлі тры трохасабовыя дружыны з класаў III «б», II «а» і II «б». Пасля серыі пытанняў і адказаў перамаглі вучні з III класа. Былі гэта Станіслаў Гродскі, Мікалай Грэсь і Марэк Высоцкі.

У індывідуальных спаборніцтвах найлепшым быў Мікалай Грэсь.

Пераможцам былі ўручаны ўзнагароды.

*(кл) Міхалова*

### ТЭЛЕФОН У ВЁСЦЫ

Няма патрэб даказваць, што у вёсцы тэлефон неабходны. Падчас выбарчай кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя ў 1969 годзе многія жыхары вёсак ставілі заданні перад сваімі раднымі, каб заняліся яны між іншым гэтымі справамі. Прапановы выбаршчыкаў выконваюцца. У мінулым годзе да вёскі Тыльвіца ў Беластоцкім павеце даведзена тэлефонная лінія. Будзе таксама праведзены тэлефон да Патокі.

*К. М., Беластоцкі павет*

### ПАДТРЫМКА ГАСПАДАРОЎ

Гаспадары Гайнаўшчыны сустрэліся нядаўна з павятовым актывам. На сходах абмяркоўваліся справы, звязаныя з выкарыстаннем зніжкі цэн на мінеральныя ўгнаенні і з арганізацыяй паслуг у галіне іх рассявання. Сяляне задаволены павышэннем цэн на мяса і малако і заявілі, што ахвотна скарыстаюць з новых умоў і павялічаць пастаўкі.

Разумеючы некарысную сітуацыю ў галіне забеспячэння нашага рынку мясам і маючы на ўвазе карысныя ўмовы продажу жывёлы, гаспадары Гайнаўскага павета абавязаліся дадаткова выгадаваць каля 4300 галоў жывёлы і больш 2400 штук свіней. У сярэднім кожны трэці гаспадар абавязаўся дадаткова выгадаваць штуку жывога інвентара.

(ак)

### ПАБУДАВАЦЬ ПОМНІК

8-га сакавіка 1942 года ў Гаркавічах на Сакольшчыне немцы расстралялі былых членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. А вось іх прозвішчы: Аляксандр Прытыцкі (родны брат вядомага рэвалюцыянера Сяргея Прытыцкага), Лявон Прытыцкі, Іван Прытыцкі, Уладзімір Савіцкі, Іван Кастэцкі, Павел Яцэвіч, Уладзімір Усцілка, Васіль Суравец і Іван Філановіч. Расстраляны яны за вёскаю. Там знаходзіцца іх брацкая магіла, на якой стаіць драўляны крыж. У вёсцы Гаркавічы ідуць часта гутаркі, каб гэтае месца ўшанаваць помнікам або хаця б мемуарнай плітой. Аб гэтым ішла таксама гутарка на сходзе гуртка ЗБоВіД. Але пакуль што ўсё канчаецца толькі на гутарках. А шкада. Людзі, былыя падпольшчыкі, дастойны прыгожага помніка.

*А. С., Сакольскі павет*




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне ўжо споўнілася нядаўна 18 год. Жыву і працую на вёсцы. Вучыцца далей не пайшла, бо навука мне цяжка прыходзілася. Дагэтуль усё ішло добра, толькі вось цяпер спаткала мяне гора. У нас рабілі калёніі. Адзін хлапец жыў у нас на кватэры. Яму год мо трыццаць пару прыстойны, гаварлівы хлопец. Мне ён штораз больш пачаў падабацца, а і ён усё аглядаўся за мною, усё шукаў майго позірку. Я пакахала яго. Штораз часцей мы гаварылі, выходзілі на шпацыр і т.п. Гаварыў, што ажэніцца са мною і возьме мяне ў горад. Але работы скончыліся, і ён паехаў, нават не развітаўшыся са мною (я была ў сваёй сяброўкі ў другім канцы вёскі, а ён нават не паклікаў мяне на ад'езднае). Я чакала ўсё пісьма, але не дачакалася. І што ж мне рабіць, мо шукаць? Праўда, ведаю яго прозвішча, але не ведаю яго дакладнага адрасу пражывання. Я не магу аб ім забыць, усё сніцца па начах, цяпер толькі я пераканалася, як я моцна яго кахаю. Парай, Сэрцайка, што мне рабіць.

*Зіна з Бельшчыны*

*Зіна!* Аднак трэба забыць, нічога табе іншага не засталося. Зрэшты, і невядома, ці ён не жанаты, бо ж у большасці выпадкаў у такіх гадах мужчыны ўжо маюць жонак і дзяцей. Усё такі, калі нават і нежанаты, дык ты, Зіна, не маеш ніякіх шанцаў на тое, каб ён вярнуўся. Відаць, ён не быў закаханы, не лічыў ваш флірт сур'ёзным, калі паехаў, не развітаўшыся, і не напісаў ніводнага лісту. Забудзь, Зіна, аб ім. Займіся працай (вёска ж пачынае ўжо кіпець работай). Каханне яшчэ перад табою, мо і не адно.

*Сэрцайка*

### ПЛЁСКІ БУДУЮЦЦА

Плёскі, што ў Бельскім павеце, залічваюцца да найбольшай вёскі ў ваколіцы. Жыве тут больш як 200 гаспадароў. Найбольшыя даходы гаспадары атрымліваюць з гадоўлі свіней. У апошні час у вёсцы пабудавана 6 новых мураваных дамоў. Штогод знікаюць драўляныя будынкі, крытыя саломай. На іх месцы растуць новыя, цагляныя. Вёска робіцца прыгажэйшай.

*Тэкст і фота Л. Леанюк, Плёскі*



*Хата Аляксея Канеўскага.*

### АЎТАРСКІЯ СУСТРЭЧЫ З НАГОДЫ ПЯТНАЦЦАЦІГОДДЗЯ БГКТ

Ад 19 за 21 сакавіка 1971 года вядомыя беларускія паэты Алесь Барскі і Віктар Швед прабывалі на Гайнаўшчыне і правялі шмат аўтарскіх сустрэч з школьнікамі і дарослымі.

У першы дзень свайго прабывання А. Барскі прачытаў лекцыю аб савецкай сучаснай літаратуры для супрацоўнікаў павятовай бібліятэкі ў Гайнаўцы і вучняў старэйшых класаў беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя. Пазней А. Барскі выступіў у школе ў вёсцы Альхоўка.

У той самы час В. Швед сустрэўся са школьнай моладдзю ў Горным (Гайнаўка) і Масеве. Вечарам абодва аўтары сустрэліся з моладдзю і дарослымі вёскі Навасады. Яшчэ больш працавітым для наўшых паэтаў быў дзень дваццатага сакавіка. У гэты дзень беларускія паэты правялі аўтарскія сустрэчы ў школах Лянева і Вялікіх Тынявіч. Вечарам гэтага ж дня А. Барскі і В. Швед сустрэліся з моладдзю і дарослым насельніцтвам Клейнік і Трасцянкі. Апрача вершаў, якія чыталіся нашымі паэтамі, А. Барскі выступіў у гэтых вёсках з дакладамі. Усе гэтыя сустрэчы выклікалі вялікую зацікаўленасць да творчасці паэтаў. Праявілася яна і ў значнай колькасці пытанняў да аўтараў, праявілася гэта таксама ў вялікай колькасці купленых моладдзю паэтычных зборнікаў (у сярэднім каля 50 зборнікаў у кожнай школе) і ў сардэчных просьбах прыязджаць часцей. Асабліва кранаючымі былі выказванні аднаго з жыхароў Трасцянкі Міхася Астроўкі, які сказаў, што «Ніва» з'яўляецца для яго любімым часопісам і што беларускае паэтычнае слова стала арганічнай патрэбай яго жыцця.

*Алесь Барскі сярод школьнікаў Лянева.*

У нядзелю 21 сакавіка беларускія паэты прынялі ўдзел у міжшкольным аглядзе мастацкіх гурткоў, выконваючых беларускія песні, у Гайнаўцы. Пасля заканчэння элімінацый А. Барскі і В. Швед выступілі перад моладдзю.

Пакідаючы Гайнаўку, паэты былі шчыра ўсхваляваны сардэчным прыёмам з боку кіраўніцтва ўсіх школ і грамадскага актыву вёсак, у якіх яны выступалі. Паэты прасілі, каб «Ніва» выразіла шчырую падзяку настаўнікам з Масева, Альхоўкі і Горнага, маладзёжнаму актыву з вёскі Навасады, настаўніцам школы Лянева і Тынявіч Вялікіх, бібліятэкару і кіраўніцтву школы ў Клейніках і кіраўніцтву школы і грамадскаму актыву ў Трасцянцы.

Ад'язджаючы, паэты падкрэслілі, што праведзены цыкл сустрэч залічаюць да найбольш уданых мерапрыемстваў у сваёй творчай кар'еры.

*Тэкст і фота Віктар Бура, Гайнаўка*



*Жыхары Клейнік слухаюць вершы А. Барскага.*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), 20—21. „Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 22—23. „Żenia, Żenieczka i katiusza" (radziecki), 24—25.

**НАРАЎКА**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radzecki), 21—25.

**НАРВА**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (jugosł.), 21—25.

**ЧЫЖЫ**

„Lenin — karty życiorysu" (radz.), „Tabliczka marzenia" (polski), 21—25.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Jak rozpętałem II wojnę światową" (polski), 21—23.

**АРЭШКАВА**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Pali się moja panno" (czeski), 24—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Szkice warszawskie" (polski), „Sól ziemi czarnej" (polski), 21—25.

**ОРЛЯ**

„Wyspa na lądzie" (węgierski). „Przygoda z piosenką" (polski), 21—25.

**РАЙСК**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii" (angl.), 20—21. „Abel twój brat" (polski), 22—23. „W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), 24—25

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), 20—21. „Spotkali się w pociągu" 22—23. „Rancho Texas" (polski), 24—25.

**ЯНАЎ**

„Białe słońce pustyni" (radz.), 21—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.). 20—21. „Czarny mustang" (USA), 22—23. „Listek figowy" (węgierski), 24—25.

**МЕЛЬНІК**

„Labirynt miłości" (radz.), 20—21. „Przed wojną" (jugosł.), 22—23. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (angl.), 24—25.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Faraon" (polski), 20—21. „Aleksander Newski" (radz.), 22—23. „Wątła nić" (USA), 24—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), „Smog" (włoski), 21—25.

**НОВЫ ДВОР**

„Sól ziemi czarnej" (polski), „Wniebowstąpienie" (polski), 21 — 23.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7254 E-3

Міхась Пянкрат

## ЧЫЯ ЖОНКА ЛЕПШАЯ?

Два дамы — насупраць. Праз вуліцу. Адчынены вокны. Перагаварваюцца суседзі.

— Сцяпан! А, Сцяпан!
— Чаго табе?
— Што ты робіш?
— Тэлевізар гляджу.
— Во, сказаў — тэлевізар. Ты ж у акно глядзіш!
— А калі бачыш, куды гляджу, — навошта пытаешся?
— Ды я да таго, што ўжо вечарэе. Суботні дзень. Можа б піўка выпілі. Грошы ёсць...

Сцяпан памякчэў:

— Яно вядома — піўка... Але ведаеш, братачка, мяне жонка на хатні арышт прысудзіла. Сама пайшла да сына, зачыніла дзверы, а знадворку на кручок узяла...
— Ох браце, разнесчаслівейшы ты чалавек, што маеш такую жонку. Да чаго ж не люблю такіх баб! — і сказаць не магу.
— А што ты зробіш? Аб разводзе гаварыць позна. Уласныя дзеці засмяюць...
— Дык як наконт піўка?
— Яно вядома — піўка...
— Дык вылазь праз акно!
— Братачка, не магу — ботамі фіранкі пазрываю.
— А ты выкінь спачатку боты, а потым выкідвайся сам.
— Вот сказаў! Людзі, вунь, па вуліцы ходзяць. Што я, блазнота якая?
— Дык што ж рабіць будзем?
— А я ведаю — што?
— Ух, і не люблю ж я такіх баб! Вот задачу задала! Мая жонка якая ўжо сварлівая, а такога ніколі б не зрабіла.
— Ды яно пэўна...
—Сцяпан, ты пакуль пасядзі. Я апрануся, выйду і цябе вызвалю...
— От, Міколачка, добра прыдумаў. Апранайся...

Міколава акно апусцела. Праходзіць дзесяць мінут, пятнаццаць, дваццаць. Нарэшце, Міколкава галава з'явілася ў акне.

— Сцяпан! Ты чакаеш?
— Няўжо ты не бачыш? Чакаю.
— Не магу цябе вызваліць.
— Чаму?
— Жонка некуды пайшла. Дзверы з таго боку на кручок зашчэпленыя...

Дабрак.

# НІЎКА

### У КАГО

— Мой муж не п'е і не курыць.
— О, у яго моцная сіла волі.
— Ды не ў яго — у мяне.

### БАЯВЫ НАСТРОЙ

— Ветконгаўцы пайшлі ў атаку! — дакладвае сержант камандзіру.
— А які ў салдат настрой?
— Здадзімся, але не адступім.

### Талаваломка

Рысунак нагадвае турысцкую палатку, якая складаецца з сямі элементаў рознай геаметрычнай формы. Усе гэтыя элементы ўлажыце ў рысунак, змешчаны ніжэй. Ёсць некалькі варыянтаў вырашэння гэтай задачы.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: Рушыцца толькі шарык № 1.*

### АБ'ЯВА

Дрэннае веданне мовы краіны, якую наведваюць турысты, можа адбіць у іх жаданне ад такой важнай традыцыйнай дзейнасці, як пакупкі. Каб папярэдзіць такога роду непаразуменні, у вітрыне аднаго з французскіх магазінаў была вывешана аб'ява: «Уваходзячы ў наш магазін, не засмучайцеся сваёй французскай мовай, мы выдатна гаворым на мове, якая нагадвае англійскую».

### АДГАДАЎ

Сустрэліся нейк за чаркаю два прыяцелі. Вось адзін і пытае:
— Колькі будзе палавіна і палавіна?
— Сказаць не магу, але нутром адчуваю, што будзе літр.

### У ЦЯГНІКУ

У купэ для курцоў адзін з пасажыраў ветліва спытаў:
— Выбачайце, вам не перашкодзіць, калі я не буду курыць?

### ХТО ЛЕПШЫ

У адной кампаніі зайшла размова аб тым, хто лепшы — мужчыны ці жанчыны.
— Жанчыны, — заявіла адна дама. — Я яшчэ ніколі не сустракала жанчыны, якая гналася б за дрэнным мужчынам толькі таму, што ў яго прыгожыя ногі.

### МАГЧЫМА

— Скажы мне, я — тваё першае каханне?
— Магчыма... Але ці была ты ў 1959 годзе ў гарцэрскім лагеры ў Татрах?

## ДЗЯВОЧАЕ ГОРА
(ПРЫПЕЎКІ)

*Хлопец*
Добры дзень, мае вы дзеўкі,
Я прыйшоў вам паіграць.
Заспявайце мне прыпеўкі,
Раскажыце, што чуваць.

*Дзяўчаты*
Каля рэчкі, у балоце
Камары куслівыя,
Мы дзяўчаты маладыя,
Ды ўсе нешчаслівыя.

*Хлопец*
Ой, дзяўчаты, мае любкі,
Так не трэба гаварыць.
Завіхніцесь каля хлопцаў —
Будзе весела вам жыць.

*Дзяўчаты*
Ой, які ж ты неразважны,
Думаеш жыццё — кірмаш.
Перш паслухай, што раскажам,
Потым сам усё разваж.

*Дзяўчына I*
Я думала дні і ночы,
Бачу на яву і ў снах,
З кім не звяжаш лёс дзявочы,
Дык ашпарышся, аж страх.

*Дзяўчына II*
Дактароў ёсць да хваробы,
Не любіце дактароў вы,
Ледзь пазнаць якога ўспееш,
Зараз сэрцам захварэеш.

*Дзяўчына III*
Не хачу рахункавода,
Бо ў яго такая мода,
Што за кожны пацалунак
Ён выпісвае рахунак.

*Дзяўчына IV*
Верце, людзі, інжынеры
Маюць дрэнныя манеры.
Інжынер праекты робіць,
Па праекту толькі любіць.

*Дзяўчына V*
Муж дырэктар — не цікава,
Усё за справамі бяжыць,
То нарада, то адправа —
Прыйдзе ў хату, так і спіць.

*Дзяўчына VI*
Прымаргала трактарыста —
У трактарыста дзевак трыста.
Мне сказаў, што закахаўся,
Сам да іншае пагнаўся.

*Хлопец*
Гарманіст гармонік возьме,
Грае, аж душа баліць.
Вось такога я, сур'ёзна,
Раю кожнай палюбіць.

*Дзяўчына*
Гарманіст — вясёлы хлопец
Грае, песеньку пяе.
Як гармонік свой абхопіць,
Дык забудзе пра мяне.

*Усе*
Вось і сам ты пэўна скажаш,
Што дзяўчыне цяжка жыць.
Паспрабуй усё разважыць
І парай нам, што рабіць?

*Хлопец*
Разважаю так і гэтак,
Што тут многа гаварыць,
Вам, дзяўчатачкі, да плётак
Цэлы дзень язык свярбіць.

*Усе*
Мы прыпеўкамі сваімі
Мо ўгнявілі каго з вас,
Дык прабачце, ліха з імі,
І забудзьце ў добры час.

Пахнуць кветкі веснавыя —
Ды ўсё ж асыпаюцца.
Як ні спораць маладыя —
А усё ж кахаюцца!

*З. Стаськевіч*

### ДАВЕДАЎСЯ

— А што гавораць пра цябе твае бацькі? — пытае хлопец у сваёй сяброўкі.
— Нічога... Тата маўчыць, а маці чакае, пакуль ён што-кольвек скажа, каб запярэчыць яму.

### ВОСЬ ПЫТАННЕ

— Скажыце, вось гэтыя двайняткі — браты?
— За аднаго я ручаюся. А вось як другі — не ведаю...

H₂ O

*Без слоў.*

## DAJ MI ŚWIAT

Z repertuaru Steni Kozłowskiej

Muzyka: Adam Skorupka

Słowa: Jan Zalewski

Daj, daj, daj, nie odmawiaj, daj —
to co masz najlepszego daj —
Daj parę słów, uścisk dłoni i śmiech —
to tak niewiele jest,
to przecież nie jest grzech.
Daj mi po prostu świat.

Nie myśl długo, nie trzeba,
trzeba nam trochę nieba,
więc je weźmy gdy nas stać.
Zapamiętaj me słowa,
będziesz potem żałował
nie dając, kiedy chciałam brać —

Daj, daj, daj, nie odmawiaj, daj —
to co masz najlepszego daj —
Daj jasny dzień, ciemną noc,
ciepło warg —
daj mi po prostu,
daj mi po prostu,
daj mi po prostu świat.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Люцыны К. і «Чытачкі» з Гайнаўшчыны змяшчаем песню:

Żywo
Daj, daj, daj nie od-ma-wiaj daj — to co masz naj-lep-sze-go daj — Daj pa-rę słów uścisk dło-ni i śmiech — to tak nie wiele jest, to przecież nie jest grzech. Daj mi po prostu-świat. Nie myśl dłu-go, nie trze-ba, trze-ba nam trochę nie-ba, więc je weźmy, gdy nas stać. Za-pa-mię-taj me słowa, będziesz po-tem ża-ło-wał nie da-jąc kiedy chciałam brać.. Daj, daj, daj nie od-ma-wiaj daj · to co masz naj-lep-sze-go daj · Daj jas-ny dzień, ciemną noc, cie-pło warg · daj mi po prostu, daj mi po prostu, daj mi po prostu świat

### МЕДАЛЬЁН

— Вельмі прыгожы медальён у цябе!
— Ага! Я ў ім нашу пасмачку валасоў майго мужа — на ўспамін.
— Божа мой! Няўжо твой муж памёр? Я ж гэтага не ведала.
— Не, не памёр, але стаў цяпер ужо зусім лысы...

### ЯК

— Як называецца ў цывілізаваным свеце шлюб з адной жонкаю? — пытае выкладчык у студэнта.
— Гэта называецца... Гэта называецца... — ніяк не можа ўспомніць студэнт.
— Ну добра, я вам дапамагу: мана, мана...
— Манатоннасць! — пераможна выдыхае студэнт.

— *Пачынай ты першы...*

# Курёзы

### ПРЭМ'ЕРА НЕЗВЫЧАЙНАЯ

З Прыморскага краю ў Мінск адпраўлены «прэтэндэнты» на галоўную ролю ў фільме «Мышаня Пік», здымкі якога пачаліся ў Беларусі. На месцы падыходзячага выканаўцу знайсці не ўдалося. А ім павінна быць мышаня-малютка. Нарэшце, такія мышы знайшліся на Далёкім Усходзе. Яны гуллівыя, хутка прывыкаюць да людзей і, што вельмі важна, плаваюць: «герой» фільма падарожнічае па вадзе.

### ВАЖКІ АРГУМЕНТ

Былы афіцэр гітлераўскай акупацыйнай паліцыі ў Амстэрдаме Вілі Лагес звярнуўся да нідэрландскіх улад з патрабаваннем назначыць яму пенсію. Ён спасылаецца на галандскі закон, паводле якога іншаземец, які пражыў працяглы тэрмін у гэтай краіне, мае права на пенсійнае забеспячэнне. «Працяглым тэрмінам» Лагес лічыць тыя дваццаць гадоў, якія ён адседзеў у турме за свае злачынствы, учыненыя ў Галандыі ў гады мінулай вайны.

### СЫНОЎСКАЯ ВЕРНАСЦЬ

Калі дваццацітрохгадовага амерыканскага гангстэра Гары Віслінга прыгаварылі да 20 гадоў турмы, ён падаў уладам прашэнне пасадзіць яго ў турму Форт Мэдысан. На пытанне начальства, чаму менавіта ў гэту турму, Гары сціпла сказаў: «Мой тата адседзеў там 15 гадоў».

### У ВАР'ЯТАЎ УСЁ НАРМАЛЬНА

У адной правінцыянальнай французскай газеце было змешчана такое паведамленне: «Пасля наведвання вар'яцкага дома прэфект паліцыі заявіў, што, на яго думку, у гэтым завядзенні абстаноўка нармальная».

Смяйце з намі

*Зуб мудрасці ёсць у кожнага, але не кожны мае мудрасць.*